Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 8 (62) Пятніца, 20-га Лютага 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць тры разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр. За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар.— 5 гр.

## Ад Рэдакцыі.

Просім нашых паважаных чытачоў і падпісчыкаў зьвярнуць увагу на зьмену нашага адрэсу:

З 18-га гэтага лютага Рэдакцыя і Адміністрацыя „Грамадзкага Голасу" месьціцца у доме № 1 на Нямецкай вуліцы „Hotel Sokołowskiego" пакой № 26, куды і просім скіроўваць усю корэспондэнцыю да газэты.

## Важная задача.

Як усім вядома, Польскі Урад пасьпешна заняўся справамі нашага нязьмерна пацярпеўшага за апошнія гады краю.

Крэдытная падмога, аб якой, нарэшце, зусім паважна падумала цэнтральная ўлада Рэспублікі, даўно зьяўляецца неабходнай нашаму беларускаму народу-земляробу дзеля хутчэйшага падняцьця яго заняпаўшае ў віхры сусьветных падзеяў гаспадаркі, а йначай кажучы і яго дабрабыту.

Пры страшнай пасьляваеннай галіце нашага шматпакутнага народу адпусканьне патрэбнага яму будаўлянага матар'ялу і рэгуляваньне гэтае балячкі згары зьяўляецца мерай першараднае гаспадарственнае вагі.

Але на першы плян па сваім значэньні выступіць, насьпеўшая ня сёньня, зямельная рэформа, якая мусіць пачаць сабою новы фазіс у жыцьці нашага сялянства. Зямельнае пытаньне — рэч настолькі няпростая, што разрашыць яе адным махам нельга, аднак-жа пачынаць гэтую справу бязумоўна трэба якнайхутчэй. І сялянства на мясцох, церазь зямельныя камітэты ці іншыя законныя установы свае, павінна пайсьці насустрэчу зямельнай рэформе ў інтарэсах правядзеньня яе якнайсправядлівей у жыцьцё на вачох самога сялянства.

Ёсьць ужо весткі, што пры парцэляцыі дворнае зямлі будуць узяты пад увагу ў першую чаргу безьзямельнікі і гэтак званая *дворная* служба.

Апошняе акрасьленьне занадта агульнае, каб на ім ня спыніцца. Калі пад назовам дворнае службы галоўным чынам будзе разумецца тая грамада фактычных рабачаёў на дасюлешніх панскіх абшарах— парабкоў-земляробаў, дык сапраўды нельга пажадаць нічога лепшага, каб у блізкай будучыне парабкі гэтыя маглі стаць на ўласныя ногі і быць самастойнымі гаспадарамі.

Калі-ж на першы плян пры нарэзваньні зямлі выступіць гэткая катэгорыя дворнае службы, як цяперашнія акоманы, лёкаі, стангрэты — фактычна служба болей заможных абшарнікаў, — дык гэтым будзе дапушчана з боку зямельных уладаў тая простая памылка, што найбарджэй зямлю зможа дастаць ня тая катэгорыя дворнае службы, якая зямлю беспасрэдна выробляе, творачы яе прадукцыю, а камэрная, калі так можна назваць, абслуга цяперашніх вялікіх двароў, якая часта-густа зьяўляецца эканамічна дужэйшаю за парабкоў, дый навет проста на зямлі працаваць ня ўмее.

Зямлю дастаць павінен той, хто ўмее сам тварыць яе прадукцыю, хто ўжо ўмее з ёю ўпраўляцца і ня лічыць хітраю навукаю вядзеньне самастойнае гаспадаркі.

Да безьзямельнікаў было-б разумна і справядліва залічыць і той параскіданы па вёсках сялянскі элемент, які перакідаецца выпадковымі заробкамі, альбо дробнымі старымі тутэйшымі рамёсламі: ганчарствам, сталярствам, бандарствам і інш. Праўда, што гэтым часта дарабляюць сабе на хлеб і тыя малазямельныя нашыя сяляне, якім зусім абмяжованы кавалак уласнае зямлі пры вялікай дружыне ў некалькі душ не дае магчымасьці пракарміцца і піхае шукаць іншага спосабу да жыцьця. Вастрыня зямельнага голаду сярод малазямельных сялян хіба што ня меншая, як і сярод сельска-гаспадарчых рабочых, служачых па дварох.

**Адсутнасьць у краі буйных прамысловых цэнтраў не дае магчымасьці сельскаму насяленьню рабіць пэўны адплыў у месты і аграрнае пытаньне пры моцным штогодным прыросьце вясковага насяленьня сілаю самае натуры выяўляе з сябе задачу вельмі важную і ў разрашэньні сваім неадкладную, таму што хуткае правядзеньне зямельнае рэформы само сабою зьвіцца паваротным пунктам ува ўсім комплексе тутэйшых адносін.**

## Палітычная хроніка.

**У Польшчы.**

На конфэрэнцыі, скліканай 17. II увечары ў палацы Прэзыдыуму Рады Міністраў п. Тугутам па пытаньню аб правядзеньні зямельнае рэформы, пасол Рудзінскі ад імя клюбу «Wyzwolenia» заявіў, што цяпер у камісіі зямельнай рэформы ідзе разгляд проекту «Wyzwolenia» і што ўрадовы проект моцна розьніцца ад проекту «Wyzwolenia», якое ня можа адступіцца ад разгляду ўласнага проекту. Пазыцыю пасла Рудзінскага падтрымаў пасол Соха з групы Брыля. Пасол Вітос, пакуль што, стрымліваецца ад выказваньня свае думкі датычна проекту зямельнай рэформы. Пас. Дубановіч адносіцца да ўрадовага проекту вельмі крытычна.

У Варшаве арыштованы у ночы з 13 на 14 лютага расейскі граф Толь па падазрэньню ў шпіёнстве на карысьць аднаго з суседніх гаспадарстваў.

Як піша «Kur. Polski», ў другой палове бягучага месяца будзе адтрымана першая часьць пазыкі, зробленае Польшчаю ў Амэрыцы. Часьць гэта раўняецца суме 35 мільёнаў даляраў. Пры гэтым газэта дадае, што ўся сума ў далярах будзе ўвезена ў Польшчу і перадана Польскаму Ураду, які прадасьць чужаземную валюту Польскаму Банку, а выпушчаныя замест даляраў польскія злотыя выдасьць на падмогу сельскай гаспадарцы, на павялічэньне чугунак і на задаваленьне крэдытных патрэбаў краю церазь дзяржаўныя банкі.

Соймавая камісія па справах камунікацыі, выслухаўшы даклад асобнае следчае камісіі па справе б. начальніка Віленскае Чугуначнае Дырэкцыі п. Ляндсбэрга, вялізнаю большасьцю галасоў пастанавіла, заклікаць урад да перадачы пракурору ўсяе справы аб лясных надужыцьцях у віленскім і радамскім чугуначным вокрузе.

Як падлічвае „Kurjer Poranny" лік выпушчаных да новага году у абег грошай у Польшчы азначаецца цыфраю 694,3 мільён. злот., што, пры насяленьні краю ў 27,5 міл. чалавек, дае 25,24 злот. на кожную душу, або каля 10 рублёў золатам.

16 гэтага лютага міністар Тугут, які як прэзэс спэцыяльнае соймавае камісіі агледзеў блізу што ўсе вастрогі ў Польшчы і добра знаёмы з іхнымі недахватамі, меў нарады па гэтым пытаньні з міністрам справядлівасьці Жыхлінскім.

16. II адбылася міжміністэрыяльная конфэрэнцыя па пытаньню аб забясьпечаньні граніц. Проект рэфэраваў міністар унутраных справаў Ратайскі.

**За граніцай.**

Італьянская прэса даведалася, што міжсаюзная ваенна-кантрольная камісія ў **Нямеччыне** устанавіла: 1) рэйхсвэр мае азбраеньне, якое перавышае нормы вэрсальскага трактату; 2) рознага роду сабраныя запасы перавышаюць патрэбы, ўстаноўленыя гэтым трактатам для стотысячнае арміі; 3) кавалерыя мае кулямёты; 4) пры унівэрсытэце ёсьць рэкруцкае бюро гэт. званага чорнага рэйхсвэра; 5) паліцыя адбывае манэбры, падчас якіх азбройваецца на ваенны лад; 6) паміж рэйхсвэрам і аддзеламі нармальнае паліцыі істнуе сыстэматычны абмен служачымі; 7) ваеннае міністэрства, нарушаючы пастановы міравога трактату, перадало цывільным уладам сэкрэтную апрацоўку мобілізацыйных плянаў; 8) на шмат якіх фабрыках далей ідзе выраб зброі машынамі, якія падлягаюць зьнішчэньню. Дакумэнты аб палажэньні збройнасьці Нямеччыны, знойдзеныя францускім афіцэрам, былі пасьля недзе схованы.

У **Фінляндыі** 16 лютага адбыліся выбары прэзыдэнта рэспублікі. Выбраны за прэзыдэнта д-р Роляндэр, адтрымаўшы 172 галасы проці прогрэсыўнага канд. Рыплема. Прэзыдэнт выбраны на 6 гадоў.

# *Беларусы!*

***Калі маеце дзяцей школьнага веку, дык памятайце, што да 31 сакавіка гэтага году вы павінны кожны ад сябе асобна падаць Павятоваму Школьнаму Інспэктару дэклярацыю аб жаданьні мець у вашым абводзе школу з беларускаю моваю, як выкладоваю!***

## УЗОР

дэклярацыі аб жаданьні роднае школы, якая павінна падавацца Школьнаму Павятоваму Інспэктару пасьля таго, як уласнаручны подпіс таго, хто падае дэклярацыю, будзе засьведчаны—ў воласьці, міравым судзьдзёю ці натарыюсам:

### ДЭКЛЯРАЦЫЯ.

*Я ніжэй падпісаны (ая)* ................................ *грамадзянін (ка)*
(імя і прозьвішча)

*Польскае Рэспублікі, беларускае нацыянальнасьці, жыхар (ка)* ................................
назоу мясцовасьці

*воласьці,* ................................ *павету* ................................, *як бацька — маці —*
(назоу воласьці) (назоу павету)

*праўны апякун дзіцяці — дзяцей — у школьным веку*

*1.* ................................ (імя дзіцяці) *3.* ................................ (імя дзіцяці)

2\. ................................ (імя дзіцяці) *4.* ................................ (імя дзіцяці)

*на падставе артыкулу 3 Закону 31 ліпня 1924 г., што зьмяшчае некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва* („**Dz. Urz. R. P.**" **№ 79, poz. 766**) *жадаю ўвядзеньня ў істнуючую — маючую адкрыцца — публічную народную школу ў* ................................ *беларускае мовы*, (*як выкладовае*).
(назоу мясцовасьці)

*Дн.* ................................ *192*.... *г.* ................................
(уласнаручны подпіс)

**Да школьнага Інспэктара**

*ў* ................................
(назоу мясцовасьці)

УВАГА. У тэксьце дэклярацыі непатрэбныя словы зачыркнуць.

---

**У Італіі,** паводлуг новага закону, выбары маюць адбыцца не раней, чымся закончыцца справа аб забойстве Маттэотті. Але, пакуль што, невядома, калі справа гэтая й пачнецца. Новы сэкрэтар фашыстаўскае партыі Фарынаццы заяўляе, што выбары будуць увосень 1926 году.

Корэспондэнт парыскага „Journal" паведамляе з **Лёндану**, што там японскае пасольства запярэчыла весткам нямецкіх газэт, нібыто **савецка-японскі** дагавор мае ў сабе тайныя парагрaфы.

З **Вашынгтону** (**Амэрыка**) паведамляюць, што фінансавая камісія сэнату прыняла рэзалюцыю аб скліканьні міжнароднае валютнае конфэрэнцыі. Камісія выказала думку, што эўропэйскі валютны хаос зьяўляецца аднэю з галоўных прычынаў хаотычнага эканамічнага палажэньня ў Эўропе.

Паводлуг вестак з **Масквы**, цэнтральны камітэт расейскае камуністычнае партыі прыняў рэзалюцыю, ў якой заклікае да масавага прынятку ў партыю настаўнікаў народных школаў, каб гэткім спосабам заўладаць вёскаю.

Ангельская газ. „Daily Mail" паведамляе з **Константынопалю**, што **турэцкі** ўрад пастанавіў не высылаць у Жэнэву сваіх дэлегатаў на паседжаньне па пытаньню аб высяленьні **грэцкага патрыярха**, лічачы гэтую справу ўнутраным пытаньнем **Турцыі.**

**У Баўгарскай** сталіцы Софіі забіты на вуліцы невядомымі асобамі рэдактар газэты «Слово», прафэсар Нікола Мілов, адзін з галоўных дзеячоў урадовае партыі. Забойцам удалося ўцячы.

З **Масквы** надходзяць весткі, што Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Радаў ратыфікаваў савецка-японскае паразуменьне, падпісанае ў **Пэкіне.** У бліжэйшыя дні маюць аднавіцца дыплёматычныя зносіны паміж Японіяй і СССР.

**Амэрыканскі** прэзыдэнт Кулідж выдаў афіцыяльны загад аб падгатоўцы да вялікіх марскіх і сухапутных манэбраў, якія адбудуцца вясною каля Гаванскіх астравоў.

Бэрлінск. „Lokal. Anz." піша, што румынская газ. „Adeverul" апублікавала 17 лютага распараджэньне **румынскага** міністра фінансаў да ўсіх румынскіх уладаў, каб перарвалі зносіны й перагаворы з грамадзянамі і прадстаўнікамі **Нямецкае** Рэспублікі. Караблі, вёзшыя тавары ў Нямеччыну, вернуты назад.

Губэрнатарам штату **Тэхас** у **Амэрыцы** выбрана жанчына пані Фэргюсон. Дасюль губэрнатарам быў яе муж, які на выбарах праграў кампанію на карысьць свае жонкі.

---

## Зьмест савецка-японскага дагавору.

Нямецкая газэта „Lokal Anzeiger" піша, што савецка-японскі дагавор зьмяшчае ў сабе гэткія пастановы аб абаронна-наступальным саюзе, да якога павінен далучыцца таксама й Кітай:

У выпадку, калі-б Амэрыка, Англія альбо Францыя пачала вайну з Кітаем, дык СССР выставіць армію ў 200.000 чалавек дзеля абароны Кітаю. СССР адмаўляецца ад свайго 50% удзелу у ўсходня-кітайскай чугунцы. Востраў Сахалін церaз 5 гадоў перайдзе ў уладаньне Японіі, калі за гэты час яна даставіць СССР 4 малыя крэйсэры, 1 вялікі, 30 моторных чаек і 7 мінаносцаў. Уладывасток павінен быць марскою базаю. На збудаваньне гэтае базы Японія пазычае СССР суму, роўную 30 проц. коштаў будовы. Муштраю ў кітайскай арміі, якая мае быць лікам у 800.000 чалавек па мірнаму часу, займуцца японскія і савецкія інструктары. У Заходнім Кітаі павінен быць створаны індускі і тыбэцкі корпус. Кітай абавязваецца набываць ваенны матар'ял толькі ў СССР і ў Японіі. Дагавор робіцца на 30 гадоў і рэгулюе агульныя ваенныя, палітычныя і эканамічныя пытаньні СССР, Японіі і Кітаю. Гэты дагавор можна лічыць за азіяцкі саюз, скіраваны проці Англіі, Амэрыкі і Францыі.

---

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Адбудова Бэльгіі.

Як ні зруйнованы былі падчас сусьветнае вайны некаторыя мясцовасьці ў Бэльгіі, а адбудову іх цяпер ужо можна лічыць блізу што закончанай. У момэнт падпісаньня перамірыя ў розных гарадох і вёсках Бэльгіі было зруйнована каля 100.000 дамоў. На 1 студня новага году з іх 95.000 было ўжо адбудована і калі лічыць і ваенныя баракі, дык на тэрыторыі, дзе адбываліся ваенныя дзеі, цяпер ёсьць больш жылых памешканьняў, чымся было перад вайною. Аднак-жа Іпр цяпер ужо ня той буйны гандлёвы цэнтр, якім ён быў да вайны. Замест 150—180 тысяч жыхароў у ім цяпер ня больш як 20—25 тысяч. Вялікі пляц у Дыксьмюдзе цяпер адноўлены ў сваім ранейшым стане.

### Катастрофа ў капальні.

Паводлуг вестак з Дортмунду (Нямеччына), 11-га гэтага лютага ў шахце „Міністар Штэйн" узарваліся газы каменнага вугля, што пацягнула за сабою вялізныя чалавечыя ахвяры. Катастрофа захапіла 137 шахцёраў; працаваўшых пад зямлёю. На месца здарэньня пасьпяшылі ўсе каманды ратавальнікаў. На другі дзень (12-га лютага) ратункам няшчасных было занята 180 чалавек. Праца іхняя затруднялася тым, што спускныя калодзежы былі напоўнены атрутным газам. Да 8 гадзіны вечара 12. II з шахты дасталі 110 трупаў і 6 шахцёраў, якія яшчэ мелі азнакі жыцьця. Па тэлеграфных вестках з Дортмунду за 14 лютага, дасюль яшчэ не ўдалося дастаць з-пад зямлі 14 трупаў, агульны лік ахвяраў аблічваюць у 136 чалавек.

Штыгар Фош, быўшы ў першай ратунковай камандзе і адтручаны газамі, пасьля таго як паздаравеў, расказаў аб працы ратаваўшых ахвяры ўзрыву гэткае: спусьціліся мы на глыбіню 300 мэтраў, шукаючы месца, дзе пачалася катастрофа. Калідорам гэтым мы прайшлі 300 мэтраў і пабачылі страшэннае спусташэньне. Ня толькі ваганэткі, а навет і апорныя стаўпы былі пагнуты й паломаны. Мы мелі лямпачкі. Прайшлі яшчэ 1000 мэтраў і напаткалі першую партыю забітых. Яны былі здушаны паміж сьценамі калідору і ваганэткамі, паміж якімі было ўсяго 20 сантымэтраў адлежнасьці. На капялюшы аднаго з забітых была запіска: „Нас 16, 11 гадзіна

---

# Эканамічны агляд.

У апошнія часы шмат якія эўропэйскія дзяржавы ўстрывожыліся ўсё большай дарагоўляй хлеба ў сувязі з мінулым неўраджаем. У Італіі, Францыі, Чэха-Славакіі, Аўстрыі дый у Польшчы цана хлеба быстра пайшла ўгару. Калі толькі зараз-жа ня будуць прыняты энэргічныя і мэтазгодныя меры, якія маглі-б гэтыя дзяржавы забясьпечыць неабходнай колькасьцю хлеба па таннай цане, дык эканамічны крызыс можа йзноў завастрыцца. Аўстрыя, ледзь стабілізаваўшая сваю валюту і пазбавіўшаяся, дзякуючы Лізе Народаў, эканамічнае катастрофы, ізноў апынулася ў цяжкім стане—дзеля недахвату хлеба і шукае выхаду ў фінансава-эканамічным аб'яднаньні з Нямеччынай, як больш магутнай з боку эканамічнага. Але гэтае эканамічнае аб'яднаньне памалу пацягне за сабой і палітычнае, што ўтварыла-б паважныя палітычныя комплікацыі ў Заходняй Эўропе. На гэта ня згодзяцца саюзьнікі і суседзі Нямеччыны і Францыі. Францыя таксама зрабіла над'звычайныя крокі, якія маюць на мэце ўстрымаць далейшы ўзрост цаны хлеба і спэкуляцыю. Купляюцца на рахунак дзяржавы вялізныя запасы хлеба, якія пасьля будуць кінуты на ўнутраны рынак дзеля ўрэгуляваньня цаны. Гэтае-ж самае думаюць зрабіць і ў Чэха-Славакіі, навет і ў Польшчы. Польскія законадаўчыя палаты прынялі проект закону, які дазваляе ўраду рэгуляваць малацьцё збожжа і дазваляе пекаром дамешваць да хлеба бульбу і інш. Зусім магчыма, што хутка будуць зроблены і інш. загады, як напр. забарона вывазу хлеба за граніцу, звальненьне ад мытнага падатку прывазімага хлеба і г. п. Перапалох на эўропэйскім хлебным рынку падняўся галоўным чынам, дзеля таго, што Злучаныя Штаты, якія зьяўляюцца галоўным дастаўцам хлеба на эўропэйскі рынак, з прычыны эканамічнага ўпадку СССР думаюць забараніць вываз хлеба за граніцу да новага ўраджаю.

Хлебны крызыс у Эўропе выкліканы агульным неўраджаем, а галоўным чынам у СССР, які калісь пасылаў хлеб ува ўсю Эўропу, а цяпер сам прымушаны купляць збожжа, пшаніцу, кукурузу і інш. за граніцай і навет у Амэрыцы. Амаль што ня два гады адзін за адным у СССР страшэнны неўраджай з голадам, які пацягнуў за сабой мільёнвыя чалавечыя ахвяры і цяжка адбіўся на эканамічным палажэньні ўсяе Эўропы. Першы раз быў неўраджай у 1921 г. і другі ў мінулым з прычыны засухі, тады як у Польшчы і Зах. Эўропе гэткі-ж неўраджай быў з прычыны дажджоў. Дзеля таго, што цяпер была цёплая і бясьсьнежная зіма, якой у Эўропе ня было больш як 100 гадоў, надзеі на сёлетні ўраджай хлеба вельмі слабыя. Гэта выклікае яшчэ большы перапуд на сусьветным хлебным рынку. Навет бальшавікі, якія дагэтуль спакойна адносіліся да выміраньня з голаду расейскага народу, цяпер купляюць вялізныя запасы пшаніцы ў Англіі і Амэрыцы, баючыся, каб го-

2 ўжо пам"... Апошняе слова ня было закончана. Мусі той, што пісаў запіску, самлеў і памёр. Мы скіраваліся назад. Раптам пачулі покліч аб падмозе. Кінуліся ў той бок, адкуль пачуліся галасы. Знайшлі 6 чалавек, якіх панясьлі на сабе. Адзін падчас пераносу памёр. Адзін з ратаваўшых пакаціўся, будучы атручаным газамі. Пасьля не памятаю, што са мною здарылася. Калі апрытомнеў, быў у шпіталі.

Як паведамляюць з Бэрліну, усе міністры ў знак жалобы 14. II адмовіліся быць на назначаных у гэты дзень балёх і сабраньнях.

### Новае лякарства ад сухотаў.

ПАТ перадае з Копэнгагэну (Данія), што тамашнія мэдыцынскія сфэры вельмі добра ад'зываюцца аб новым лякарстве проці сухотаў, знойдзеным прафэсарам Мэльгарлёні. Упырскваньне гэтага лякарства, галоўнаю складною часткаю якога зьяўляецца соль золата, дало якнайлепшы рэзультат. 21 траўня ў Копэнгагэне мае адбыцца спэцыяльны мэдыцынскі конгрэс дзеля разгляду гэтага пытаньня.

---

# Агляд прэсы.

Украінская часопісь „Дзвін" друкуе артыкул аб законах з 31 ліпня 1924 г., які, таксама, як аўтор яго дапасоўвае да адносінаў на ўкраінскай зямлі, можна датарнаваць да палажэньня справы ў нашым краі.

Прынятыя 31 ліпня мін. г. законы аб украінскай (і беларускай *Рэд.*) мове ў судзе і адміністрацыі і абавязуючыя ад 1 кастрычніка выклікалі вялікую сэнсацыю за граніцай і зрабіліся тэмай гутаркі у Лізе Народаў, ды ня меншым рэхам разыйшліся на Усходніх Землях, заселеных нацыянальнымі меншасьцямі — ўкраінцамі, беларусамі і г. д.

Былі ў іншых і надзеі, што законы, прынятыя Соймам і Сэнатам будуць праведзены ў жыцьцё і з іх будзе карыстацца шырокае грамадзянства. Але йшоў час, мінула ўжо ня дзень і ня два, а чатыры месяцы, а законы, як быці законамі на паперы, гэткімі-ж і засталіся. Пастарому дастае украінскі сялянін розныя павесткі валасьці, паліцыі, скарбовага інспэктарату, староства. Пастарому бегае па вёсцы, шукаючы пісьменнага папольску. Пастарому плоціць кары за неразуменьне таго, што напісана ў урадовых паперах або за ня ў пору выкананьне таго, ці іншага. Пастарому пашыраюцца польскія школы на украінскіх вёсках; пастарому звальняюцца украінскія вучыцелі; пастарому забараняюць у школах вучыць нашае роднае гісторыі і геаграфіі, адным словам засталося ўсё у справе школьнай пастарому.

Ці знойдзеце ў нас на Валыні хапя адно староства, камісарыят, валасьць, якія алказалі-б на просьбы, напісаныя паукраінску ў нашай мове? Не, гэтак сама пастарому засталося, як было да законаў, гэтак сама й цяпер. І адміністратар, калі загаворыце да яго паукраінску, хутчэй адкажа вам на маскоўскай мове.

Далей, пагляцзеце на самаўрады! Дзе вы апрача Луцкага Сойміку пабачыце пераход на украінскую мову? А ў гэтакіх установах, як магістраты, лягчэй спаткаеце на сьценах апавешчаньні на маскоўскай мове, чымсь на украінскай. Украінскае слова ёсьць у законе, але ня выконваецца фактычна.

Вось зьяўляецца пытаньне, што-ж далей рабіць? Што?

Паводле нашай думкі, калі закон праведзены, калі сторажам над гэтымі законамі паклікана ў першую чаргу адміністрацыя і яна ня хоча спаўняць гэтых законаў, асьвядомленае грамадзянства павінна зарэагаваць сваім становішчам, сваімі дамаганьнямі і украінскай школы, украінскай мовы ў судзе ў адміністрацыі, самаўпраўленьнях — дамагаймася! Тысячы, мільёны дамаганьняў, пратэстаў хай пасыплюцца з усіх канцоў краю аб невыкананьні адміністрацыяй законаў. На закон адкажэм законам.

Трэба памятаць, што нішто нам гэтак проста не даецца і мы можам нешта здабыць толькі змагаючыся за свае правы, а калі нешта дана, дык яшчэ трэба гэта ўзядь у свае рукі.

# Маленькі фэльетон.

### Справаздача паслоў або сон выбаршчыка.

(Фантазія).

*Гл. № 7 „Грам. Гол."*.

Кабінэт, дзе сабралася мешаная камісія, прылягаў да буфэтнага пакою, і ўсе гукі і адкаркоўваньні бутэлек і зьвінеўшага начэньня добра даносіліся да вушэй камісіі і неяк, ня хочучы, раздразьнялі яе... Хаця-ж сябры камісіі і ня былі тымі „мачымордамі", як неасьцярожна падумаў Старшыня, але кожны з іх, як чалавек няхворы, не адмовіўся-б ніколі, калі-б прышлося, часам, з кім-нібудзь выпіць па чарцы, навет, як здаецца, не адмовіўся-б і ад дзьвёх, ці больш, абы быў добры фундатар, ды была забясьпечана аплата рахунку... Старшынёй камісіі, без усялякіх спрэчак, быў выбраны пасол Ярмеіч, а ў сэкрэтары — „ахвяра і страстацерпец руху беларускага", які, як толькі папаў у сябры камісіі, дык неяк пасьпеў і абстрыгчы свае космы і агаліцца і наагул прыняць такі выгляд, што навет і сам-бы сябе не пазнаў...

Усе ўселіся з паперкамі, з алаўкамі, а пасол Ярмеіч навет з папкай з інтэрпэляцыямі, і паседжаньне пачалося...

„Ну, паночкі мае даражэнькія!.. — пачаў Ярмеіч—і пачаў зусім моваю неофіцыяльнаю, бо амаль што з усімі быў прыяцелем і ў добрых адносінах. Скажу вам шчыра, як пасол Сойму, навет проста, як Ярмеіч — бо, як паслу, вы можа і не паверыце, а, на рэшце,—хочаце, ці ня хочаце—можаце і зусім ня верыць і мне на гэта, консэквэнтна кажучы, абсалютна напляваць...

— Што ты сказаў? — падняўся Заступнік Старшыні Грамадзянскага Сабраньня... неяк адсоўваючы адну руку назад.

— Што ты ска-а-заў?!.. Падняўся Віцэ-Прэзэс Віленскага Беларускага Клюбу...

— Што вы пазволілі сабе сказаць?!.. — падняўся і палкоўнік Лапата-Захаржэўскі...

— Дрэнь, — падумаў Міхась і ўжо ня зірнуў адным вокам, а наадварот зусім зажмурыўся, быццам, заснуў і нічога ня чуе...

— Ой, будзе нешта... далі Бог усыплюць яны Ярмеічу, — падумаў драматург Монвід, азіраючыся—ці далёка да дзьвераў...

— Кепска, — праняслося ў галаве самога Ярмеіча,—іх трох і пры гэтым вайсковыя, а я адзін—і ён безнадзейна паглядзеў на быццам заснуўшага Міхася і на трымаўшых нэйтралітэт — „ахвяру руху беларускага" і Монвіда...

— Перапрашаю паночкі,—падняўся і Акулярнік...

І ня ведама чым-бы кончыўся гэты інцыдэнт, няведама чым-бы кончыліся наогул вынікі ўсяе справаздачы, калі-б у гэты самы момэнт у суседнім, у буфэтным пакоі ня пляснула голасна бутэлька...

Усе аж уздрыгнулі, — быццам ток электрычны праляцеў...

Міхась асьцярожна падняў галаву і, скасіўшы вочы на камісію, пачаў прыслухвацца...

А адтуль так ясна, так выразна — „буль—буль—буль—буль"...

„Ахвяра" заварушылася... на вачох паказаліся сьлёзы, і пацякла сьліна... а ў брушку, як рэха адгукнулася: „буль—буль—буль"... і ён падмігнуўшы Міхасю, пляснуў сэкрэтарскай папкай і неяк з запытаньнем пагля дзеў на ўсіх...

У Акулярніка зачалі дрыгаць вусы і рот сам па сабе стаў неяк аджоўваць...

Монвід аж застыў на месцы і, ўхапіўшыся за сэрца, з бліскучымі вачыма паддаўся неяк уперад—у кірунку буфэту і, быццам, замёр... быццам, як некалі на сцэне ў сваёй „Птушцы шчасьця" заміраў, гледзячы на балерыну...

Палкоўнік Лапата-Захаржэўскі неяк кракнуў і даў галосную пстрычку сабе па шыі, крыху вышэй гальстука і пасьля, ткнуўшы у бок „ахвяру", паказаў пальцамі нейкую фігуру, быццам, велічыню „службовае" чаркі...

А адтуль ізноў — „буль—буль—буль"...

Ужо тутака ня было магчымасьці вытрымаць—Ярмеіч то чырванеў, то бялеў...—„а хвароба яму"... няведама чаго вылаяўся...

„Ахвяра" зусім абясьсілеў і неяк павіс на сваім крэсьле і праз нейкі бязсьвязны яго шэпт даносілася—„ня трэба навет службовае"... ну хоць маленькая...

Акулярнік аж прысеў і, падняўшы рукі дагары, толькі шаптаў: „перрапрашаю, паночкі... перрапрашаю"... Заступнік Прэзэса Грамадзянскага Сабраньня, паціраючы рукі думаў: „здаецца зараз усё будзе ў парадку"... і толькі Монвід, як артысты, прызвычаены да ўсялякіх сцэнаў адразу выйшаў з свайго, быццам, замярцьвеньня і як той „Бутрым Няміра" неяк задыхаючыся прахрыпеў: „а можа... а можа... панове, мы... па гэтай „прычыне"...

Усе як уваскросьлі... Ярмеіч пляснуў сваею папкаю з інтэрпэляцыямі і абвясьціў перарыў...

Усе пацягнуліся ў буфэт...

Г-ка.

(*Далей будзе*).

---

# У С. С. Р. Р.

### Тэрыторыя і насяленьне.

„Руль" дае цікавыя цыфры датычна бышае Расейскае Імпэрыі. Абшар, які займае бышая Расея, раўняўся 21.797,725 квадр. кілёмэтрам. Адыйшло да іншых дзяржаваў пасьля 1917 году 818.800 квадратн. кілёмэтраў. Згодна з статыстычнымі данымі, зьмешчанымі ў № 7 журнала „Власть Советов" за 1924 г. абшар Саюзу Социялістычных Радавых Рэспублік роўны цяпер 20.890,600 квадр. кілём. Насяленьне ССРР у пачатку 1924-га году аблічвалася больш-менш у 133.927,000 чалавек. З гэтага ліку блізу што 78 %, а якраз 104.413,000 жыхароў прыпадае на эўропэйскую часьць Саюзу, ў той час як абшар гэтае часьці складае толькі 22 проц. ўсяе тэрыторыі Саюзу.

Паміж паасобнымі рэспублікамі Саюзу тэрыторыя і насяленьне дзеліцца гэткім чынам:

| | Абшар у квадр. кіл. | |
|---|---|---|
| РСФСР . . . | 20.137,600 | 96,5 % |
| Украіна . . . | 446,400 | 2,1 % |
| Закаўказьзе . | 195,800 | 0,9 % |
| Беларусь | 110,900 | 0,5 % |

---

ладам не давесьці насяленьня да роспачы і бунту.

Сусьветны ўраджай мінулага году ў параўнаньні з ранейшымі на аснове даных міжнароднага сельска-гаспадарчага Інстытуту ў Рыме гэткі: ў 19-ёх эўропэйскіх дзяржавах (апрача Францыі, ССРР і Румыніі, скуль няма акуратных даных) у 1924 г. сабрана збожжа 147,4 мільёнаў цэнтнараў (1 цэнтн.= 100 фунт.), тады як у 1923 г. было сабрана 177,6 міл. цэнтн. У Канадзе і Злучан. Штатах у 1924 г.—20,7 міл. цэнтн. (у 1923 г.— 21,9 м. ц.). Пшаніцы ў гэтых 19-ёх эўропэйскіх дзяржавах сабрана ў 1924 г. 192,7 м. ц., а ў 1923 г.—221,9 м. ц. У Канадзе і Злуч. Штатах у мінулым годзе было сабрана 307,1 м. ц., у 1923 г.—343,9 м. ц. У Азіі (5 дзяржаваў) у 1924 г. — 109,3 м. ц., ў 1923 г. — 112,6 м. ц. У паўднёвай Афрыцы (4 дзяржавы) 22,9 і 29,1 м. ц. Агулам сабрана пшаніцы 632 м. ц. ў 1924 г. і 706,5 м. ц. у 1923 г. Ячменю сабрана (першыя цыфры датычацца 1924 г,, далейшыя—1923 г.) ў Эўропе 92,1 і 99,9 м. ц., у Канадзе і Злуч. Штатах 62,1 і 59,9 м. ц., у Азіі—24,1 і 28,2 і ў Афрыцы— 18,2 і 23 м. ц. Усяго 196,5 і 206. Аўса сабрана: ў Эўропе 147,4 і 154,3, у Канадзе і Злуч. Штатах 287,3 і 275,7, у Азіі і Афрыцы 3,2 і 4,8.

Ураджай у 1924 г. у працэнтных адносінах у параўнаньні з 1923 г. гэткі: пшаніца— 89,4%, жыта 84,3%, ячмень 95,4% і авёс 100,7%. Пры гэтым трэба ад'значыць, што 1923 г. быў найбольш ураджайны за апошнія пяць гадоў. Далей, апрача меншага ліку сабранага хлеба і якасьць яго шмат ніжэйшая, чымся ў ураджайныя гады. У гэтай справаздачы няма даных з Аўстраліі і Аргэнтыны, дзе ўраджай быў ненайгоршы. Таксама няма тут даных аб ураджаі рысу ў Амэрыцы, Японіі, Кітаі, Індыі і Эўропе, які мае вялізную ролю, асабліва ў Японіі, Кітаі і Індыі, дзе зьяўляецца галоўнай ежай. У Індыі быў добры ўраджай. Затое ў 1924 г. быў лепшы ўраджай бульбы, чымся у 1923 г. У 14-ёх эўропэйскіх дзяржавах (апрача Францыі, Нямеччыны і ССРР), у Канадзе, Злуч. Штатах, у Афрыцы і Азіі было выкапана 634,1 мільёнаў квінталяў (квінталь—мера вагі ўва Францыі= 6 пуд. 4 фунт. 44 зал.). У 1923 г.—617,7 міл. квінт. Ураджай ува Францыі і Нямеччыне быў добры. Нямеччына наагул лічыцца першай старонкай у Эўропе з боку колькасьці і якасьці бульбы. Таксама і ўраджай цукровых буракоў у мінулым годзе быў большы, чымся ў 1923 г. У 7-ёх эўропэйскіх дзяржавах (апрача Францыі і Нямеччыны), у Злуч. Штатах і Канадзе сабрана 247,3 м. кв. У аднэй Польшчы агулам сабрана ў мінулым годзе збожжа, як нядаўна заявіў міністар земляробства ў Соймавай Камісіі, 65% даваеннага ліку. Быў добры ўраджай толькі на бульбу, цукровыя буракі і грачыху.

*N.*

| | Насяленьне | |
|---|---|---|
| РСФСР . . . | 98.170,000 | 73,4 % |
| Украіна . . . | 26.024,000 | 19,4 % |
| Закаўказьзе. | 5.635,000 | 4,2 % |
| Беларусь | 4.098,000 | 3,0 % |

Як бачым з вышэйшых цыфраў, Радавая Беларусь стаіць на апошнім месцы сярод саюзных рэспублікаў, маючы ўсяго 0,5% ўсяго абшару.

Паводлуг месца пражываньня насяленьне Саюзу складаецца з вялізарнае большасьці сялян, бо вясковых жыхароў налічваецца аж 111.600,000 або 84 процанты і толькі 21.900,000 душ жыве ў гарадох, складаючы толькі 16 % усяго насяленьня. Найбольшы процант гарадзкога насяленьня адносна да ўсяго ліку жыхароў Саюзу ёсьць на Украіне, дзе ён дасягае 19 %. Далей ідзе Беларусь—18 %, губэрні і акругі эўропэйскае часьці РСФСР—17 %, аўтаномныя часьці Маскоўшчыны — 11,4 % і аўтаномныя акругі яе — 6 %.

Адміністрацыйныя адзінкі абшару бальшавікі зьмянілі так, што губэрні вельмі часта паменшылі ледзь не на 1/8 часьць, а воласьці часамі павялічаны блізу што ўдвая. Паветы паменшаны вельмі мала, напр. з 30,409 кв. вярстоў па ўсім Саюзе на 28,264 кв. вярстоў.

### Жыды-сяляне ў Радавай Беларусі.

На першым зьезьдзе жыдоў-сялян Радавае Беларусі прынята гэткая рэзалюцыя: „Мы, жыдоўскія сяляне, рашуча адкідаем усе стараньні сыяністых усіх масьцяў адцягнуць нашую ўвагу ад нашае працы ў радавай Расеі (?) фантазіямі аб Палестыне. Нам непатрэбна Палестына.

У жыдоўскі зямельны фонд улучана 4,000 дзесяцін. У сёлетнім годзе фонд гэты мае быць даведзены да 10,000 дзесяцін.

### Неспакой сярод галодных.

Аддзел азброенных конных калмыкоў захапіў сябра выканаўчага камітэту Астраханскае губэрні Рыкса, аб'яжджаўшага калмыцкія сядзібы пасьля ліквідацыі чумнае эпідэміі. Калмыкі заявілі праводзіўшым Рыкса асобам, што ён будзе звольнены тады, калі губэрскі камітэт прышле харчовыя прадукты для калмыкоў, якія церпяць голад.

У Хвалынскім павеце Саратаўскае губэрні заварушыліся сяляне. Жыхары вёсак Нова-Савінскае воласьці абозным парадкам рушылі ў Хвалынск па хлеб. Высланы насустрэчу аддзел чырвонаармейцаў сілаю зброі прымусіў сялян вярнуцца назад. Сяляне ўзлаваўшыся пачалі руйнаваць савецкія і партыйныя установы па вёсках.

### Малазямельле ў Радавай Беларусі.

Як піша „Экономическая Жизнь" (№ 29), на сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларусі народны камісар земляробства заявіў, што каля 30 проц. сялянскіх гаспадарак церпяць ад малазямельля, маючы адну—тры дзесяціны пры 6—7 душах дружыны. Матар'яльнае палажэньне аднае чацьвёртае часьці сялянскага насяленьня Радавае Беларусі вельмі цяжкае.

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

## Навіны ў тры радкі.

— Румынскі сынод устанавіў патрыярхат у Румыніі; патрыярхам выбраны мітрапаліт Мірон Крыстэа.

— У Адэсе звольнена 227 савецкіх служачых за спэкуляцыю і праступленьні па службе.

— Цераз Пэтраград за 1924 г. выслана ў Зах. Эўропу, Кітай, Японію і Амэрыку 5 мільёнаў тэлеграмаў.

— Разанскае ГПУ арыштавала некалькі дзесяткоў сялян, абвінавачаных у забойствах і пабіцьцях агентаў сав. ўлады на мясцох.

— У сёлетнім годзе пачнецца будова новага вялізнага англа-амэрыканскага кабэля, які мае каштаваць 5 мільёнаў даляраў.

— У Японіі ў раёне м. Гума, якое мае 60.000 жыхароў, адчувалася ў мінулую нядзелю землятрасеньне.

— Саюз дактароў Лодзінскае Касы Хворых дамагаецца аплаты доктарскае працы пры візытах у хаце хворых сябра Касы 10 злот., а ў кабінэтах сваіх за параду—3 злот.

— 16 лютага ў Кэнігсбэргу (Нямеччына) адчыніўся кірмаш, на якім прадстаўлена каля 2 тысяч фірмаў.

— 15 лютага ў шмат якіх мясцовасьцях Швайцарыі гуляла сільная бура.

— У Амэрыцы на выстаўцы самаходаў пачаўся пажар, ад якога згарэла 350 самаходаў, кошт якіх азначаюць у 2 мільёны даляраў.

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Кандыдаты на настаўніцкія курсы.** 13 гэтага лютага Цэнтральная Рада Беларускага Таварыства „Прасьвета" перадала ў Кураторыюм Віленскага Школьнага Вокругу дакумэнты, прашэньні і рэестрацыйныя анкеты 55 безработных настаўнікаўбеларусаў і 26 настаўніц. Як відаць з копіяў сьпіскаў, пры якіх былі перададзены ў Кураторыюм паперы кандыдатаў на курсы, Т-вам „Прасьвета" прадстаўлены гэткія настаўнікі і настаўніцы: 1) Лазар Паўлюк, 2) Майсак Грыгор, 3) Скурка Васіль, 4) Кунавіч Язэп, 5) Шаўчонак Нікандар, 6) Балаш Максім, 7) Місюль Васіль, 8) Рудак Грыгор, 9) Дожын Янка, 10) Расоха Нічыпар, 11) Буцкі Уладзімер, 12) Лічка Уладзімер, 13) Кіровіч Язэп, 14) Завадзкі Язэп, 15) Пястун Юстын, 16) Занковіч Паўлюк, 17) Мілішкевіч Сымон, 18) Васільчык Сэвэр'ян, 19) Зяновіч Грыгор, 20) Пілецкі Пётра, 21) Мацейчык Аляксей, 22) Барысёнак Ігнат, 23) Зюзенкаў Пётра, 24) Янчуковіч Мікалай, 25) Тарарака Ульян, 26) Косьцевіч Банадык, 27) Катовіч Тамаш, 28) Сак Уладзімер, 29) Губарэвіч Міхась, 30) Міленцэвіч Сьцяпан, 31) Бесараб Барыс, 32) Протас Канрад, 33) Будзька Янка, 34) Буката Паўлюк, 35) Станкевіч Міхась I, 36) Дуровіч Мікалай, 37) Семашкевіч Аляксандар, 38) Дожын Даніла, 39) Ляшчынскі Язэп, 40) Конон Уладзімер, 41) Станкевіч Міхась II, 42) Рудко Грыгор, 43) Данільчык Вінцук, 44) Рудзінскі Паўлюк, 45) Гаўрылюк Кастусь, 46) Буйвал Міхась, 47) Грыц Апанас, 48) Матысяк Васіль, 49) Трэкала Міхась, 50) Баліцкі Язэп, 51) Дук Янка, 52) Ілюкевіч Янка, 53) Вярнікоўскі Аляксандар, 54) Курыловіч Пётра, 55) Крот Т., 56) Кавэрда Ганна, 57) Лявіцкая Надзея, 58) Чыжэўская Мар'я, 59) Галаўчынская Ніна, 60) Рыжэўская Вера, 61) Царык Кацярына, 62) Галкоўская Мар'я, 63) Савінкоўская Аляксандра, 64) Ярашэнак Феафанья, 65) Рэчыц Сарафіна, 66) Белабжэская Аляксандра, 67) Станкевіч Мар'я, 68) Булаўская Зося, 69) Мятла Паўліна, 70) Мятла Аляксандра, 71) Еўлева Вера, 72) Курыловіч Стафанія, 73) Кабяка Люба, 74) Замойская Зіновія, 75) Карнаух Алёна, 76) Аўсейчык Мар'я, 77) Савіцкая Зінаіда, 78) Гапановіч Мар'я, 79) Сакалова Ларыса, 80) Сухая Аўгеньня і 81) Фурс Надзея.

Назначаць кандыдатаў на курсы будзе Міністэрства рэлігіяў і Народнае Прасьветы.

У Т-ве „Прасьвета" засталося больш як 250 рэестрацыйных анкетаў тых з настаўнікаў, якія ня прыслалі у Т-ва дакумэнтаў і праз гэта не маглі быць унесены ў сьпісак кандыдатаў, пададзены ў Кураторыюм.

**Канцэлярыя Цэнтральнае Рады Белар. Т-ва „Прасьвета" перамясьцілася на Нямецкую вуліцу д. № 1 готэль Сакалоўскага пакой № 24, куды і трэба зьвяртацца зацікаўленым асобам.**

= **Рэарганізацыя ў Час. Бел. Радзе.** На паседжаньні Рады 10-га гэтага лютага выясьнілася, што быўшы да таго часу Прэзыдыум Рады ня меў у большасьці сваёй магчымасьці павясьці інтэнсыўна ўсю палітычную працу. Аказалася патрэбнай рэарганізацыя Рады шляхам кооптацыі новых беларускіх сіл, што і адбылося ў працягу некалькіх мінулых дзён. У Раду кооптованы з правам пастанаўляючага голасу п.п. Ф. Аляхновіч, Я. Бэкіш, Пінчук-Пенкевіч, Крыцук, Якімовіч і Кернажыцкі. Запрошаны ў Раду таксама і народны настаўнік С. Рудзь. П. Ф. Умястоўскі, не адмаўляючыся па меры сваіх магчымасьцяў ад працы чыста культурна-прасьветнае, заявіў Радзе, што ён ня можа згадзіцца на зробленую яму Прэзыдыумам прапазыцыю фармальна ўвайсьці ў склад сяброў Рады. На паседжаньні папоўненае Рады 16 гэтага лютага, паміж іншым, Старшынёю Рады быў перавыбраны п. А. Паўлюкевіч, рэшта сяброў Прэзыдыуму Рады складаецца з гэткіх асоб: Ф. Аляхновіч, Г. Канапацкі, А. Кабычкін і Я. Бэкіш. Функцыі кожнага сябра мае акрэсьліць Прэзыдыум на бліжэйшым сваім паседжаньні. Выбрана таксама і Наглядная Рада, ў якую ўваходзяць інж. Мірскі, Пінчук-Пенкевіч і Якімовіч.

Канцэлярыя Часовае Беларускае Рады месьціцца у готэлі Сакалоўскага па Нямецкай вул. 1.

= **„Праваслаўны Беларус".** Намі адтрыманы з Варшавы (Прага, вул. Зыгмунтоўска, 13) першы нумар новае беларускае часопісі „Праваслаўны Беларус". Гэта досіць ёмкі двутыднёвік у 16 стр. журнальнага фармату з вельмі цікавым зьместам. Журнал выходзіць пад рэдакцыяй Івана Пачопкі. Падпісная цана на 1 мес. — 1 злоты. Мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Правасл. Царквы ў Польшчы, патрэт якога зьмешчаны на 1 старонцы журналу багаславіў выданьне гэткімі словамі да Рэдакцыі Праваслаўнага Беларуса: *„Благаслаў, Божа, гэта слова беларускае Царкве Праваслаўнай на славу і народу беларускаму на дабрабыт"*.

= **Падмога Клецкай Гімназіі.** Беларускае Грамадзянскае Сабраньне ў Вільні выдала Клецкай Беларускай Гімназіі грашавую падмогу у разьмеры 300 злотых.

= **Дарагоўля.** Цана на белую муку ізноў паднялася на 10 проц. Ад 1-га лютага цэны на муку пабольшалі на 25 процантаў.

= **Пагроза забастоўкі друкаршчыкаў.** Саюз друкарскіх рабочых-хрысьціян м. Вільні выступіў з трэбаваньнем ад прадпрыемцаў падвышэньня заработнае платы. У выпадку, калі ня будзе узаемнага паразуменьня, дык ад панядзелку 23-га лютага можа пачацца агульная забастоўка друкаршчыкаў у Вільні.

## Пісьмы у Рэдакцыю.

I.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

У газэце „Беларуская Доля" (№ 14) была памешчана заметка „Не падзяліліся", гдзе гаворыцца, што ў Часоваў Бел. Радзе зрабіўся разлом і што цяпер ёсьць дзьве Часовыя Рады — адна на чале з доктарам Паўлюкевічам, а другая—з Валэйшам.

Дык не адмоўце, пане Рэдактар, праз Вашу паважаную газэту паведаміць: 1) што з момэнту стварыўшайся Часовай Рады я ні ў якія палітычныя справы ня ўмешаваўся, 2) аб ніякіх разломах ня ведаю; калі і былі якія спрэчкі паміж сябрамі Рады, то ўва ўсякім здарэньні не са мною, 3) я быў прадстаўніком ад Грам. Сабраньня, толька па справах культурна-прасьветных, а не палітычных, і то выступіў з прычыны хваробы, такім чынам, ня толькі што я не стаю на чале другой Часовай Рады, але нават і ня ведаю аб істнаваньні такой.

З пашанай *Валэйша.*

II.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Не адмоўце п. Рэдактар замясьціць гэтае пісьмо ў сваёй паважанай газэце.

У зьвязку з стварыўшайся сітуацыяй паміж сяброў Часовай Беларускай Рады, для дабра працы гэтай самай Рады, трэба, каб усе паўстаўшыя непаразуменьні былі спынены.

Дзеля гэтага выходжу з ліку сяброў Рады, аб чым паведаміў прэзыдыум Часовай Беларускай Рады.

З пашанай *У. Більдзюкевіч.*

## Паштовая скрынка.

Язэп *Даўнар*, Базыль *Даўнар*, Язэп *Юневіч*, Аляксандар *Зенэвіч*, Аляксей *Трафімчык*, Янка *Даўнар*, *Страшынскі*, А. *Асіповіч*, Сяргей *Даўнар*, Павал *Асіповіч*, А. *Корсік*, Ф. *Пашкевіч*, Кастусь *Лабач*,—ўсім на просьбу ў пісьме газэта высылаецца.

*Лабунька* Кастусь — грошы адтр.

*Рудко-Цыган*, *Міранчык* А. — календары высылаем.

*Пышка* Ігнат — адрэс перамянілі.

**Беларускі Календар**
на **1925** год
можна купіць у Беларускай Кнігарні ў Вільні (Завальная вул. 7), а таксама ў віленскіх кнігарнях Сыркіна, „Лектор" і Літоўскай.
**Цана 1 зл. 25 грош.**

Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей**

Друкарня „Lux", вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.

Bibl. ... w Wilnie im. Wróblewskich